1927

КНІЖКА 7-я

1927 г.

# ЗАРАНКА



# Лісты у „Заранку“

## Ліст Маладога Дзядка да Беларускіх дзетак.

**Мілыя дзеткі!**

Вельмі цешуся, што магу ізноў з вамі пагаманіць. Вось прайшло і лета! Вось завітала ўжо да нас пекная беларуская восень. Дрэўцы ў садох абвешаны смашнымі яблыкамі ды грушкамі. Распачаліся заняткі ў школах, у якіх? Ох, шчасьлівыя з вас дзетачкі тыя, што вучацца ў сваіх родных школах беларускіх! Бедненькія, што калечацца ў польскіх школах! Але найшчасьлівейшыя гэта тыя, што хоць вучацца ў польскіх школах а не забываюцца аб сваёй роднай старонцы Беларускай. Аб гэтым даведаўся я з каханай нашай „Заранкі“. Нават чытаў тых мілых дзетак казкі ды апавяданьні. Цешуся, што вы працуеце шчыра, і што вы, дзеткі, штораз шчыльнейшым ды вялікшым колам, гуртуецеся ля „Заранкі“. Добра робіце. Пільнуйце і пашырайце „Заранку“, каб яна ўсім нясла карысьць, каб яна не пагасла а сваімі серабрыстымі коскамі асьвячала шлях вашага маладога жыцьця. Сэрца маё цешыцца, што сярод вашае грамадкі зьявіліся гэткія, што адразу пачалі ня толькі чытаць, але і пісаць у „Заранку“, як напрыклад „Марыся з Антокалю“, або Марыся Ласька, Патаповічы, Нагуй, Войцікавы, і іншыя. Я таксама пішу вам у „Заранцы“ вершыкі, апавяданьні, баячкі, рысую малюначкі, але вельмі шкада, што ня гледзячы на маю просьбу ніхто нічагуткі не напісаў да мяне дагэтуль у „Заранцы“. Але спадзяюся, што знойдецца хоць адзін сярод вас і чыркне Маладому Дзядку некалькі слоўцаў. Падаў я вам да чытаньня „Пастушку“, „На начлезе“, „Юрачку“ і інш. Можа здаралася і вам калі пасьвіць гусак, ці коні? А мо' таксама, як і мой „Юрачка“ хтосьці з вас плакаў першы раз у школе, А тымчасам не забывайце нашае дарагое „Заранкі“, ну і мяне, Маладога Дзядка, які для вас, дзеткі, гатоў шмат папрацаваць. Да пабачаньня, даражэнькія дзеткі!

9 верасьня 1927 г, Кахаючы Вас **Малады Дзядок.**

# НАША ПОШТА

**Мікалаю Дыльке.** Твой ліст да „Маладога Дзядка“ зьмесьцім у наступнай кніжцы, бо ў гэтай няма мейсца. Напішы ў „Заранку“ што небудзь другое; гэтая казка, што Ты прыслаў зусім ня цікавая дык і ня зьмесьцім.

**Юлісю Зьмітровічу.** Вельмі нас цешыць, што „Заранка“ гэтак усім вам падабаецца і што з нецярпеньням чакаеце кожнаго яе нумару. Як-жаж там у Вас з бібліятэчкай? Ці шмат ужо маеце кніжак? А беларускія ці ўжо выпісалі? Жадаем Вам якнайлепшага пасьпеху ў Вашай карыснай працы. Ці атрымалі лістоўны адказ аб зьбіраньні зёлак? Пішыце ці зьбіраеце ўжо зёлкі і якія з тых, што мы Вам радзілі. Малюнкі Твае вельмі добрыя, але-ж на жаль ў „Заранцы“ зьмясьціць ня можам бо, каб адбіць рысунак, трэба яго рысаваць **чорным тушам**, а не фарбамі. Папрабуй рысаваць тушам, калі ўдасцца, то з ахвотай зьмесьцім.

**Марыі Ласка.** Ліст Твой атрымалі. Казку і песьню зьмесьцім у чародных кніжках. Загадкі зьмясьціць ня можам, бо Ты не прыслала разгадкі.

**Сяргею Атрахімовічу.** Апісаньне Варганскай гары зьмесьцім у наступнай кніжцы.

**Янку Патаповічу.** „Пара галубкоў“ і круцігалоўку зьмяшчаем. Прысылай больш.

**„Сярожы Пастушку“.** Вершык зьмяшчаем. Пішы, што будзеш рабіць зімой.

Рэдактар Выдавец **Л. Войцікава.** Друк. Я. Левіна, Вільня.

P. 112

# ЗАРАНКА

—: Ілюстраваная :—
часапіс для дзяцей.

**Выхедзіць кніжкамі адзін раз у месяц.**

**Падпісная цана з перасылкай:**

на 3 месяцы — — — — — 1 зл.
на год — — — — — — 4 зл.

Асобны нумар 35 гр.

**Падпіска прымаецца з кожнага месяца.**

**Адрас рэдакцыі і адміністрацыі:**

**Вільня, Віленская вул. 12, кв. 6.**



# Школьны званок.

Які-ж гэта голас гарой залягае:
Так зычны, прыгожы, вясёлы ?
Вось гэта званочак дзяцей заклікае:
„Да школы роднай, да школы!“

Бо школа як маці, усім памагае
Навукай — багаты ці голы; —
Дый лепшу дарогу жыцьця адкрывае
„Да школы роднай, да школы!“

Бо школа любіць нас, дабро навучае
Ляпей чым царквы і касьцёлы,
Навукай высока людзей падымае —
„Да школы роднай, да школы!“

Звані-жа званочку, хай Бог памагае —
Звон — зык твой так мілы, вясёлы!
Бо шмат чаго ў школе ўсякі пазнае —
„Да школы роднай, да школы!“

З польскага **М. Б.**

**Малады Дзядок.**

# „На начлезе“.

Сонейка давно ўжо схавалася за лесам. Ужо летняя ноч паволі спусцілася на змучаную зямельку. На цёмнасінім небе прыветліва заміргалі ясныя зорачкі. Навакол ціха, спакойна. Часам перарве гэтую цішу гаўканьне сабак, ці аддалены крык савы. Змучаныя дзенай працай, сяляне ўлягліся на кароткі супачынак. Уся вёска сьпіць... Нават дрэўцы ня хочуць парушыць лісткамі... У паветры чуецца цяплыня ды прыемны пах, што ляціць з гародаў, садоў і палёў..,

Раптам гэтую мілую цішу перарваў тупат конскіх ног. Гэтая цэлая грамадка хлапцоў, а таксама і дзяўчатак вер-хам на конях выежджае на начлег у лес, каб накарміць іх смашной лясной травой.

Хто жыў, ці прынамсі быў, улетку ў вёсцы, ды сам вадзіў коняў на пасьвішча ўначы, дык пэўна добра ведае, як прыемна часам быць на начлезе паміж сваіх сяброў ды знаёмых.

Вось ужо дзеці на мейсцы. Спутаўшы коням ногі, тыя з дзяцей, што мелі варту, разышліся і палеглі пад дрэў-цамі, а рэшта ўселася ў кола і пачала гутарку.

Міхалка, што прыехаў з места, дзе праз цэлую зіму вучыўся ў гімназіі, мае тут вялікую пашану. Бо і хто-ж можа з іх расказаць гэткія цікавыя казкі, ці праўдзівыя падзеі, як ён?! Ён-жа больш за іх вучыўся і больш усяго мог угледзіць ў месьце. З хцівасьцяй прыслухоўваюцца дзеткі да Міхалкавых апавяданьняў, а ён, цешачыся з іх увагі, расказвае аб месьце, аб сваіх вучыцялёх, калегах, аб вялізных дамох ды сьвятынях; урэшце аб кніжках, з якіх ён вычытаў шмат цікавага.

Але найбольш зацікавіла дзяцей апавяданьне Міхалкі аб нашай Бацькаўшчыне Беларусі. Як калісь Яна цьвіла і красавала; як была вольная, белая бо нявінная, нікому крыўды ня рабіла; урэшце, як наляцелі варожыя раці, і, як пачалі зьдзекавацца над нашай старонкай; як аблілася Яна крывёю нашых дзядоў; як закулі Яе, бедненькую, ў

кайданы і стогне Яна дагэтуль, пакуль ня вызваляць Яе, пакуль не разаб'юць жалезных кайданоў няволі лепшыя сыны Яе.

З запалам гаворыць Міхалка.. Ен гатоў хоць-бы зараз ісьці ратаваць сваю Матку-Беларусь. Стоячы на каленах, ён бязупынна гаворыць, а вочы ягоныя блішчуць сярод ночы, як дзьве вагнявыя зоркі. Дзеці бачуць, разумеюць яго... Кожнае з іх набірае адвагі, хоча быць падобным да Міхалкі. Яно, здаецца, таксама гатова хацяб зараз ійсьці і стаць у рады тых магутных волатаў, якія пойдуць разьбіваць векавыя путы няволі нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны. Іх маладыя сэрцы пылаюць зыркім агнём; іхныя грудзі моцна ўздымаюцца! Яны з маленькіх, слабых — робяцца моцнымі, сільнымі! Яны патрапяць паказаць усяму сьвету, што яны жывыя і не дазволяць зьдзекавацца над сваею Маткаю—Беларусяй!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сьціх урэшце Міхалка. Змоўклі дзеці. Часам чуецца пырсканьне коняў, якія з радасьцяй ядуць сочную траву. Падзьмуў лёгкі халодны ветрык. Быццам мурашкі прабегл па целе ў дзяцей і, некаторыя з іх, каб сагрэцца, распалілі груд.

Весела заскакалі сярод начное цемры вагнявыя языкі, затрашчэлі сухія галінкі, заблішчэлі хутка чырвоныя вуглі. Прыпомнілася дзяцём, што ўзялі з сабою трошкі бульбы, дык усунулі ў попел, каб сьпяклася.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Праз нейкі час, сон перамог змучаныя галоўкі маладых начлежнікаў і яны, укруціўшыся ў шэрыя сярмяжачкі, пазасыпалі. Сьветлыя думкі аб лепшай будучыне сваёй Бацькаўшчыны—Беларусі навеялі на іх сон ціхі, радасны.,.

Калі-ні-калі фыркалі спутаныя коні, трашчэлі дагараўшыя на грудзе галінкі ды, быццам сьцерагучы сон дзетак, у небе міргалі сьветлыя зорачкі.

31 ліпня 1927 г.



* * *

Я восень люблю залатую,
Ранкі, туманы, зару,
Сьціхшую зямельку старую,
Сну, адпачынку пару.

Ночкі люблю яе цёмныя,
Шэрую сьлякаць—імглу,
Песьні віхуры—жалобныя
Злодзея—змрока гульню.

Твар бледна жоўтага сонца,
Частыя слёзы дажджа,
Голых палосак абшары бязконца
Шопат і скаргу ручча.

У вечары доўгія, чорныя
Люблю я, восень твае,
Казкі бабулькі чароўныя,
Мроі аб сьветлай вясьне.

**М. Машара.**

**М. Антаноўскі.**

# Апавяданьні цёткі Пары.

З расейскага пераклаў А. Б,

## IX. Сястрыцы Пара і Цяпло.

Няўгледка-цяпло, улезшы ў жыжку, расшырае также і яе, — гаварыла цётка Пара.

Калі Алеська вельмі перагрэе свой імбрычак, дык з яго пабяжыць вада, а частка яе ператворыцца ў пару.

Так, так! дзякуючы толькі брату Агню і сястрычцы Цяплу я і жыву на сьвеце!

Пастаўце ў агонь гаршчок вады, — чым гарачэй яму будзе, тым хутчэй з яго пойдзе пара.

Калі накрыць гаршчок, дык вечка на ім пойдзе скакаць. Ад чаго ўсё гэта? А вось ад чаго. Калі вада ператвараецца ў пару, тады яна дзеліцца на шмат, шмат частачак і дзеля гэтага больш займае мейсца. Гэта ўсе роўна калі-б мы пакрышылі кусок хлеба на дробныя крошкі ды ўсё злажылі ў адну кучку: шмат большай была-б кучка, як быў кусок хлеба.



Вось калі вада зробіцца парай, яна ня можа зьмясьціцца пад векам і піхае яго, пакуль не падыме і ня вырвецца з пасудзіны.

Вазьміце зялезнаю трубку, уліце ў яе крыху вады і крэпка заторкніце коркам. Пасьля грэйце яе на агні; яшчэ, яшчэ — трах! корак выскачыў.

Што сталася?

Вада пачала кіпець і ператварылася ў пару. А пары шмат больш трэба мейсца, як вадзе. Вось корак і выскачыў. Калі-б корак вельмі крэпка трымаўся — пара разарвала-б трубку.

Так, так, цётка Пара жанчына ня трусьлівая ды і сілы ў яе шмат.

Заўважце, што цётка Пара вельмі любіць цяпло. Чым больш яе награваць, тым яна робіцца дужэйшай. Можна мяне, бабулю, так нагрэць, што я разарву наймацнейшы кацёл, зроблены з стальных лістаў таўсьцінёй з палец.

Для маей сілы шмат трэба прастору. Гуляць я люблю на свабодзе, і калі вады, з якой я вышла, была толькі бутэлька, дык мне, пары, трэба цэлая бочка, каб я магла добра чуцца. Я люблю пашану і павагу, а не, дык тады бяда, разлуюся і разарву на кусочкі сваё памяшчэньне.

## X. Паравая машына.

А якая ж ты, цётка, злосная! — крыкнуў Янычка. — А яшчэ кажаш, што любіш людзей і шмат ім робіш добра.

— Клёк, клёк! Але я бяз дай прычыны ніколі ня злую. Людзі, якія са мной умеюць абходзіцца, толькі карысьць маюць ад мяне. Вучоным людзям я ніколі не перашкаджаю



карыстацца маей сілай. Вось ты, Янычка, пэўна езьдзіў на цягніку? Табе мо' нат і ў галаву ня прышло, што вазіла цябе—я.

Памятаеш, я табе расказывала аб тым, як нагрэтая пара вырвала корак з маленькай трубачкі. Здавалася б, што куды там такой маленькай трубачцы да такога магутнага паравозу, які не адзін дзесяток вагонаў цягне, а між тым гэта адно і тое.

Як працуе паравоз? Ды таксама, як наша маленькая трубачка. У паравозе так-жа зьбіраецца пара, толькі ў шырокай, з абодвух канцоў заднёнай трубе, якая завецца цыліндрам і папіхае яна ня корак, а стрыжэнь. Зрэшта, стрыжэнь і ёсьць той самы корак, толькі зялезны ды да яго яшчэ прымацавана ручка.

Стрыжэнь устаўляецца ў цыліндар. Праз спэцыяльныя дзіркі пушчаецца пара. Спачатку ў адзін канец і пара пасоўвае стрыжэнь у другі канец, а пасьля пускаюць пару ў другі канец і пара адсоўвае стрыжэнь назад. Так пушчаюць пару, а стрыжэнь соўваецца з канца ў канец; за ім соўваецца ручка і круціць калёсы, якія да яе прымацаваны.

Калёсы круцяцца, коцяць па шынах паравоз, а паравоз цягне за сабой вагоны.

Паставілі людзі такую паравую машыну на лодкі і параходы, дарабілі да іх калёсы. Пара круціць калёсы, калёсы сваімі шырокімі скрыльлямі б'юць па вадзе — вяслуюць. Параход кат можа плыць супроць вады.

Ды ціж мала працуе пара!

Пара круціць калёсы машынаў на ўсялякіх фабрыках: меле муку, пілуе дровы, тчэ, прадзе, шліфуе і шмат, шмат яшчэ чаго робіць.

К а н е ц.



Малады Дзядок.

## „Пастушка".

Сонца ледзь блісьне на ўсходзе,
Ганячка малая
Мігам з хатанькі выходзе
Й гускі выганяе.

Гоніць іх на сьвежу росу,
Песянку сьпявае
І сваёю ножкай босай
Па траве ступае.

„Гэй, вы, гускі мае белы!
„Гэй, ідзіце ў поле!
„Рвіце траўку сабе сьмела!
„Баўцеся на волі!

Белы гусанькі васёла
Разам усе гіргочуць,
Нібы: „Добра, міла Ганька!"
Ёй сказаці хочуць.

Ужо на полі Ганя борзда
Пад кустом сядае
І, таксама борзда, з торбы
Кніжачку вымае.

Стада гусачак залёну
Траваньку зьядае, —
Ганя з хцівасьцяй вялікай
Кніжачку чытае.

Ды ня дзіва! Шмат карысьці
Ад яе дастане!
Ганя дзяўчынкай разумнай
Ад яе ўраз стане.

А, як прыйдзе час на поўдзень,
Кніжачку хавае
І галінкаю даўгою
Гусак заганяе.

Гоніць іх да дому з поля,
Песяньку сьпявае,
І сваёю ножкай босай
Па траве ступае.

„Гэй, вы, гускі мае белы!
„Гэй, хутчэй, крылаткі!
„Ужо наелісь досіць траўкі!
„Гэй, хутчэй да хаткі!"

31 ліпня 1927 г.

Малады Дзядок.

# „Юрачка“

Прышла восень, пекная залацістая восень. Схапілі дзеткі кніжкі ды сшыткі ў торбы ды гай-да! у школу. Малога Юрачку першы раз прывёў ягоны татка ў школу.

Юрачка — прыгожанькі хлапчучок з мілымі рыскамі твару, з шэрымі вочкамі і залацістымі доўгенькімі валоскамі на галоўцы, — апранёны быў у сінюю кашульку і гэткія-ж портачкі.

Вельмі-ж ён спудзіўся тых крыкаў, якімі была напоўнена ўся школа. Татка пасадзіў Юрачку на першай лаўцы ў першай клясе, дзе было шмат дзяўчатак і гэткіх як ён хлапцоў, і хацеў ужо ісьці да дому. Юрачка ў плач.

Пачаў татка яго ўгаварываць, каб не плакаў, ды — куды-ж там! Абцірае Юрачка беленькай хустачкай серабрыстыя сьлёзкі, ды праз іх гаворыць гэтыя слоўцы:

„Татка, і я з табою пайду!“

— „Ня можна, Юрачка! Ты мусіш вучыцца !

— „Ну, ды хай татка будзе пры мне!

— „І гэтак ня можна!

— „Чаму“ — пытае праз сьлёзы Юрачка.

— „Пан вучыцель не дазволіць!

— „Ну, дык няхай матулья прыдзе!

— „Матулі таксама ня можна!

— „Та—ту—ля“!...—плача ізноў Юрачка.—„Да матулі хачу! Да матулі на абед!... Татулька!“...

— „Ну, дык пойдзем дамоў і ты не будзеш зусім хадзіць у школу! Добра? прамовіў татка.

— „Не, я буду хадзіць у школу!...

— „Ну, дык сядзі і ня плач! А я мушу ісьці!

— „Татачка! А ў мяне няма кніжачкі?“...

— „Ты тут пачакай, а я табе пайду ды куплю! Добра?..“ — ізноў казаў татака.

— „Татачка!... прамовіў праз слёзкі Юрачка, але ня скончыў, бо прazваніў званок і прышоў маладзенькі вучыцель.

Юрачка пазіраў, пазіраў на яго, ды пэўне ўгледзіў, што вучыцель зусім ня страшны і няма чаго баяцца яго. Абцёр хустачкай слёзкі і ўсеўся просьценька ў лаўцы. Вучыцель падыйшоў да яго, пагладзіў па залацістай галоўцы і пачаў угаварываць Юрачку, каб ня плакаў. Паказаў на ўсіх дзяцей, як яны ня плачуць, а весела сядзяць у школе.

Вучыцель абяцаў навучыць яго чытаць, пісаць рысаваць і шмат іншых рэчаў.

Павесялеў Юрачка! Татка пайшоў дамоў, а ён астаўся ў школе і слухаў як вучыцель апавядаў прыгожыя казачкі.

Ад таго часу бегае Юрачка ў школы ахвотна, палюбіў яе, пакахаў свайго добрага вучыцеля, а вучыцель таксама любіў свайго малога вучня Юрачку.

8 верасьня 1927 г.



# Працы нашых чытачоў.

## Вёска Вярэнькі.

Наша вёска ляжыць як-бы на паўвостраве, бо з двух бакоў яе акружвае балота: з усходу і паўночы. З паўдня цягнецца вялікі лес быццам пушча якая, а на заходзе гаёк выглядае прыгожанькім садочкам. Ад усходу ў канцы вёскі цячэ невялічкая рэчка, з якой вясной і летам дзеці амаль-што і ня вылезяць,—так любяць купацца.

Як-жа прыгожа вясной, як ўжо лес распусьціцца, здаецца новае жыцьцё наступіла і толькі на сьвет нарадзілася. Вечарамі зьбіраюцца хлапцы і дзяўчаты, дык пачнуць пяяць песьні, тон якіх зьліваецца з птушыным сьпевам, плыве так хараша, што здаецца слухаў-бы, слухаў без канца. У лесе расьцець шмат розных ягадаў, куды ізноў моладзь ідзе грамадой з сьпевамі і скокамі так, што сэрца з радасьці здаецца выскачыць з грудзей і пойдзе разам скакаць. А як пачнуць у гаёчку птушачкі пяяць, дык так хараша, як якая аркэстра, дык здаецца што і уміраць ня трэба.

Вёска ляжыць у нізіне. Дамы ў ёй драўляныя, гаспадароў усіх трыццаць. Адно толькі блага, што вуліца не брукаваная і як дождж, дык ужо гразь, але за тое паложаны хаднік з дошчак, па каторым можна схадзіць да суседа.

Недалёка за вёскай на пагурку могількі, абсаджаныя дрэўцамі, дзе сьпяць вечным сном нашы дзяды і прадзяды.

Ад нашае вёскі да мястэчка Пархвенава шэсьць вёрст, дзе ёсьць гміна і касьцёл.

Стэфусь Войцік.

в, Вярэнькі, Дзісьненскага пав,

* * *

Што за шчасьця, што за доля
Меці свой кавалак поля.
Сваю ўласну ніўку,
Сваю хатку і садочак
І гародчыку кусочак
І коніка Сіўку.
Мецъ кароўку і цялушку
Збожа поўную кадушку.
Але я ня маю
Ані хаткі, ні гароду,
ані нават свайго плоту
І як жыць не знаю.
Кэб я меў хоць сваю хатку
Пакінуў-бы у дома матку
І... у сьвет далёка...
У сьвет далёка я пашоў-бы,
Жыцьцё лепшае знайшоў-бы
Як Рыгор з Санока.
Чым па сьвеце валачыцца
Ляпей трэ‘ было вучыцца
Разам з дзяцьмі ў школе.
Ні папольску, ні паруску,
Я хачу пабеларуску
На роднае мове.
Хоць ня верацъ цяпер людзі,
Але гэта праўда будзе.
Што мне часта сьніцца.
Як дажджемся сваёй волі,
Я ня буду пасьвіць болей,
А буду вучыцца.
Гэта надта велька крыўда,
Што мне трэба пасьвіць быдла,
Але жыці трудна.
Бо не маю свайго поля.
Але прыйдзе лепша доля
Хоць ідзе марудна.

**Сярожа Пастушок.**

# Пара галубкоў.

Як я ўжо пісаў, галубок адзін лётаў на жыр, а галубка сядзела на сваіх яечках. Па нейкім часе, галубок пачаў радзей варочацца да дому нанач, а начаваў дзесьці далей ад свайго дому. Хоць рэдка, але яшчэ варочаўся.

Пасля некалькі дзён нябыло відаць галубка саўсім. Няведаю я, якім спосабам даставала галубка сабе яду, бо, як я бачыў, галубок не прылятаў, а яна не зьлятала з гнязда. Можа і зьлятала, калі я ня бачыў, але колькі я не стараўся ўгледзіць яе ці яго, то ня ўбачыў.

Доўга, доўга ня было відаць ні галубка, ні галубкі. Нарэшце я зьнецярпліўіўся, і думаў, што можа іх зьеў кот, або злавіў галубка шуляк, а галубка прапала без яды. А можа хто з нашых пабіў яечкі, а іх прагнаў—думаў я. Ня вытрымаў, і рашыў палезьці паглядзець ці хаця, галубка жыва, ці не, а аб галубку думаў, што ён згінуў. Паставіў я на гару драбінкі, і палез. У нас, забыўся ўпярод сказаць, на гары над страхой ёсьць другая хатка, а на столі гэнае хаткі вядуцца галубкі, і мне трэ' было лезьці па другіх драбінках, каторыя я ўжо ўпярод прыгатаваў для гэтае справы, і схаваў за сьцяной хаткі. Цяперака паволі пашоў па іх, хоць няведаў, ці галубкі ёсьць тутака, ці няма, але стараўся быць асьцярожным, каб не нарабіць вялікага шуму, а гэтым не спалохаць галубку. Узяў я драбінку і паволі паставіў яе каля сьцяны; ступіўшы па нейкіх шасьці палках заглянуў на гару ў той куточак, у каторым стаяў кошычак з яечкамі, і якая была мая радасьць, калі я на гнязьдзечку ўгледзяў спакойна драмаўшую галубку. Не пасьмеў я яе зганяць з гнязда і зьлез назад па драбіне.

Прайшло адтаго часу дзён пяць, і адзін раз калі ўвайшоў я ў хату, то мой брат сказаў мне націханьку, што ўжо ў галубкоў ёсьць маленькія галубеняткі і я хацеў зараз-жа лезьці паглядзець, але ён пачаў мяне прасіць; каб я ня лез, бо, кажа, галубку я сагнаў і яна вельмі нялюбіць як яе часта турбуюць. Я на гэта згадзіўся.

(Канчатак будзе)

Вільня 16/VI-27.

Янка Патаповіч.

# КУТОК СЬМЕХУ

— Міхась, ці ты навучыўся гэты верш?

— Навучыўся быў, пане вучыцяль, добра, алеж хацеў яшчэ ляпей умець, узяў ды перавучыў,

—

— Тата, сёньня ў меня злодзі авечку ўкраў...

— Праўда ўкраў?

— Праўда, тата.

— Мо цыганы? Яны цяпер у лесе стаяць.

— Мо і цыган, але вельмі дзіўны: меў чатыры нагі і хвост, як у сабакі.

(Падаў **С. Трахімовіч**).

—

— Лявон! Ці бьюць цябе бацькі?

— Ай, бьюць.

— А каторы з іх больш бье: бацька ці маці?

— Хто больш часу мае.

(Падаў **Б. Леўчык**).

—

## Добра ведае.

**Вучыцель:** У адным кошыку ёсьць пяць яблыкаў. Калі мы даложым яшчэ два, колькі будзе разам?

**Уладзік:** ( падымае руку ў гары). Я ўжо ведаю.

**Вучыцель:** Ну, кажы!

**Уладзік:** Разам будзе сем!

**ВУчыцель:** Як ты гэта даведаўся?

**Уладзік:** Гэля падказала.

(Падаў **„Малады Дзядок“**).

# Загадкі і круцігалоукі

## Круцігалоўка з крыжыкаў.

(Злажыла Марыся з Антокалю,

1. x x X x x
2. x x x X x x x
3. x x X x x
4. x x X x x
5. x x x X x x x
6. x x X x x
7. x x X x x
8. x X x
9. x X x
10. x x X x x

Кожны радок крыжыкаў азначаны цыфрамі прадстаўляе сабою адно слово, якое трэба адгадаць. Калі словы будуць адгаданы правільна то сярэдні радок літараў, чытаных з гары ў ніз дасьць прозьвішча вядомага беларускага паэта.

**Значэньне слоў:** 1) Ворган дыханьня ў рыб. 2) Беларуская часапісь для дзяцей. 3) Адзін з грэцкіх востраваў. 4) Музыка. 5) Музыкальны інструмант. 6) Вышывальнае палатно. 7) Від пісьменства. 8) Лічба. 9) Апавяданьне з дагістарычных часоў. 10) Інакш балота.

## Круцігалоўка.

(Падаў Янка Патаповіч)

| | | | |
|---|---|---|---|

Маем чатыры клетачкі, у якіх трэба напісаць: сухая трава, так каб у кожнай клетцы стаяла адна літара.

## З а г а д к і.

I.

1) Якую вагу павінен мець чалавек, каб не паваліўся?

II.

Калькі саломы трэба каб пакрыць цэлую страху?

# Разгадкі загадак з кніжкі 5—6.

**Шарада:** Ка-ра-ва-на.

**Круцігалоўка прастакутная:**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1. | з | а | б | а | в | а | ВІЛЬНЯ |
| | 2. | м | а | р | к | і | × | |
| КУПАЛА | 3. | К | а | ш | у | л | я | |
| | 4. | У | г | о | л | ь | е | |
| | 5. | П | а | г | о | н | я | |
| | 6. | А | л | е | с | я | × | |
| | 7. | Л | а | п | а | ц | ь | |
| | 8. | А | н | т | о | н | × | |

**Круцігалоўка квадратная.**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Ц | ы | г | а | н | А. | |
| ц | Ё | п | л | а | Б. | |
| м | я | Т | л | а | В. | ЦЁТКА |
| м | а | т | К | а | Г. | |
| х | а | т | к | А | Д. | |

**Загадка з сярнічкаў.**

Бяром 5-ты сярнічак і кладзём яго на 2-гі, 7-мы—на 10-ты, 3-ці на 8-мы, 6-ты на 9-ты і 4-ты на 1-шы.

---

**Загадка рахунковая.**

Пятрук меў 7 авечак, а Янка 5.

---

**Загадкі дробныя:** 1) У пятуха. 2) Мокрых. 3) Месяц. 4) Мак. 5) Ніводнай.

---

**Добрыя разгадкі прыслалі:** Янка Патаповіч і „Марыся з Антокалю“.